# НАВІНКІ

12 - 29 мая 2000 №9(31) Кошт свабодны


Вось сымбаль твой, забыты краю родны:




качан капусты й конь дародны.

Стар.4-5




*Куды ж падзеўся разгарот?*

Стар.2

HERBA DEATH

Памёр заснавальнік карпарацыі «Herbalife»

стар.3




*Крывавы ламэр-комікс на* **стар.8**




## СХЕМА РАЗБОРУ ТУШЫ РУСЯЦІНЫ




**Новыя геаграфічныя расклады вядуць, насуперак жаданьням Крамля, да далейшай рэгіяналізацыі Трэцярымскай імпэрыі.**

Дэбютныя ўказы Пуціна, накіраваныя на кардынальную зьмену структуры ўлады, выклікалі шчанячую эўфарыю ў панславянскім асяродзьдзі. Проста на трохразовае «ўра» ўспрынятая ідэя аб стварэньні 7 супэррэгіёнаў, у аснове якіх палягае не нацыянальны, а геаграфічны крытэр. «Надышоў час пакончыць з парадам сувэрэнітэтаў. Усе – пад скіпэтар Масквы!» – сьцьвярджае пераемнік Ельцына.

Аднак Крамлёўская перамога над правамі 89 рэгіёнаў можа быць піравай. На пуцінскія рэформы варта глянуць у кантэксьце працэсаў глябалізацыі. Між тым, у аснове заўтрашняга малюнку сьвету ляжыць бясспрэчны факт страты дзяржавай свайго эканамічнага сувэрэнітэту на карысьць рэгіёнаў. Вось што піша пра гэта правадыр мэксіканскіх індзейцаў субкамандантэ Маркас:

«Быццам зарад, які трапіў у браню, адскоквае ад яе і трапляе ў таго, хто страляе, – гэтак вайна разьвязаная нэалібэралізмам паразіла дзяржаву. Нацыянальны рынак – адно з фундамэнтальных асноваў дзяржавы сучаснай эпохі разваліўся пад ураганным агнём міжнароднай фінансавай эканомікі. Новы міжнародны капіталізм высмоктвае ўсе сокі з нацыянальных эканамічных сыстэмаў, морыць іх голадам. Удар аказаўся настолькі моцным, што нацыянальныя дзяржавы ня могуць больш абараняць правы сваіх грамадзянаў. Сын (нэалібэралізм) пажырае бацьку (нацыянальны капіталізм)...»

Арганізацыя новай эканомікі не падобная да клясычнай. Яна будуецца ня з прынцыпу герархічнай пірамiды з адзіным цэнтрам, а паводле наяўнасьці гарызантальных сувязяў, быццам павуціньне. Як вынік, традыцыйныя мэгаполісы, як Масква, мусяць воляй-няволяй паступіцца кадрамі і грашыма на карысьць правінцыі, каб у пэрспэктыве перадаць ёй частку ўлады. Пуцінская рэгіяналізацыя садзейнічае гэтаму працэсу, фармуючы новую палітычную культуру ў Расеі, дзе не генэтычная й гістарычная традыцыя, а рацыянальны індывідуальны праект вызначаюць антыпатыі да Масквы. Праілюстраваць гэты фэномэн можна на прыкладзе руху інгерманляндцаў, якія выступаюць за незалежнасьць Санкт-Пецярбургу ад Расеі. Вось фрагмэнт іхняга маніфэсту:

«Мы хацелі жыць па-чалавечы – пішуць інгерманляндцы – мы толькі адчулі густ жыцьця. Нехта з нас пачаў упершыню ў жыцьці апранацца, нехта зьезьдзіў за мяжу, нехта набыў машыну і відэамагнітафон... І фэдэральная ўлада не змагла гэтага вытрымаць. Сёньня ў нас адабралі ўсё: працу, грошы, надзеі на будучыню... У гэтай сытуацыі мы абвяшчаем усе без выключэньня фэдэральныя ўлады і структуры акупацыйнымі і заклікаем да грамадзянскай непакоры».

Таму пачакаем наконт канца сувэрэнітэтаў. Магчыма наадварот, праз колькі гадоў Пуцін як магільшчык Расеі стане кумірам уральскіх, волскіх ці сібірскіх нацыяналістаў.


Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Падпісны індэкс **63439**. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@user.unibel.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 23.05.2000 г., а 02.01. Тыраж 10100 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная Зорка» ВПП імя Я.Коласа, г. Менск, 1-ы Загарадны зав., 3. Заказ №1621


Die Navinki

Да 55 гадоў Перамогі

Чарнобыльскі Рэйд

Зьезд на вякі!

Шмат чытачоў нашай газэты засталіся без тэматычнага разгароту да Дня Перамогі

# Хто падставіў газэту Die Navinki?




Свабоду *Die Navinkam*! – менавіта пад такім лёзунгам працоўны калектыў газэты *Навінкі* зьбіраўся правесьці чарговы пікет у абарону правоў незалежнай прэсы ў Беларусі. Справа была ўся тым, што пасьля выхаду чарговага нумару ў рэдакцыю пачалі паступаць гнеўныя званкі чытачоў: «Чаму, мля, нумар тонкі? Дзе, тля, цэнтральны разгарот? Дзе ўрэшце, хля, абяцаныя *Die Navinki*?» Рэдакцыя была ў шоку. «Цэнзура!» – першае, што прыйшло ў галаву пакрыўджаным журналістам. – «Няўжо ў Беларусь вяртаюцца часы «белых палосаў» у цэнтральных газэтах?» Аднак было троху дзіўнавата, бо ніякіх антыкарупцыйных дакладаў Антончыка ў №8 мы не друкавалі.

Тэрмінова быў створаны аргкамітэт, які вынес на парадак дня пытаньне аб правядзеньні пікетаваньняў дзяржкамітэту па друку, паліграфічнай фабрыкі «Чырвоная Зорка», Белсаюздруку, Белпошты і г.д...

Справа ж вырашылася нечакана. У рэдакцыю зьявіўся апухлы пасьля чарговай п'янкі начальнік аддзелу распаўсюду газэты Юры Канальчык.

Зь ягоных няясных тлумачэньняў высьветлілася наступнае: у прызначаны час Ю.Канальчык як заўсёды павез тыраж газэты па канторах, але на пр.Скарыны яго сустрэла цэлая ватага нямецкіх турыстаў-сьледапытаў. І Юры вырашыў падзарабіць. «Вас іст дас, клёптшык?» – спыталі яго. «Газэта нямецкай суполкі ў Менску аб гераічных дзеяньнях германскіх людзей на Беларусі». «Чэсна» зарабіўшы 100 дойчмарак, спадар Канальчык растварыўся ў татальным запоі.

За свае разгільдзяйскія паводзіны, несумяшчальныя з годным званьнем «навінкаўца», Ю.Канальчыку вынесенае строгае папярэджаньне з занясеньнем у асабовую справу.

**Рэдакцыя газэты прыносіць прабачэньні ўсім пацярпелым у гэтай справе і просіць тых, хто, набыўшы нумар 8-мы газэты *Навінкі*, не знайшоў там старонкі з 3 па 6, даслаць паштоўку на адрас рэдакцыі. Вам будзе высланы бясплатна злопалучны №8** ●

## Напярэдадні іспытаў

**Н**апярэдадні надыходзячых уступных экзамэнаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы ўладамі было прынятае рашэньне ўключыць у экзамэнацыйныя камісіі прадстаўнікоў славутага БПСМ.

Адрознасьць сёлетняга рашэньня ад таго, якое было прынятае ў мінулым годзе, у тым, што абітурыенты будуць абавязаныя прыходзіць на іспыты з элемэнтамі бэпээсэмаўскай сымболікі. Гэтая мера выкліканая неабходнасьцю адсеіць фанатычных маладафронтаўцаў, якіх хоць страляй або кідай да дзікіх зьвяроў у афрыканскі цырк – ня выракуцца сьветлых ідэалаў бел-чырвона-белага сьцягу й гербу «Пагоня».

Да ўвагі абітурыентаў прапануецца шырокі выбар патрыятычнай сымболікі ад сяброўскіх значкаў БПСМ да маек і дыпляматаў з выявай выбітных дзеячоў «лукамолу».

Скідкі толькі для сябраў БПСМ ●




## ГулЯньні

### Хоць дог.

Нарэшце антырэжымныя дзеяньні нашай апазыцыі пачалі перацякаць у канструктыўнае рэчышча.

Уражаныя размахам афіцыйнага сьвяткаваньня Дню гораду, айцы беларускай дэмакратыі вырашылі правесьці альтэрнатыўныя «гуляньні». Абышлося ўсё, праўда, без хот-догаў і таннага піва наразьліў, аднак, вядома ж, не магло абысьціся без другарадных правакацыяў з боку «непрымірымых».

Нейкія два гаспадары прыхапілі на «гуляньні» сваіх сабачкаў, мабыць справіць невялічкую палітычную патрэбу. Немаведама чым кіраваліся дэмакратычныя сабакаводы, але ў аднаго сабакі на ашыйніку ў якасьці распазнавальнага знаку быў прывязаны чырвона-зялёны сьцяжок, у другога (бультэр'ера, дарэчы) – бел-чырвона-белы.

Зразумела, гаспадар сабакі, які павесіў пёсіку чырвона-зялёную стужку, зрабіў гэта чыста па прыколу. Небарака ня ўцяміў, што сабакі не разьбіраюцца ў «чалавечаскай» палітыцы, а тым болей у прыколах.

Убачыўшы адзін на адным варожыя сьцягі, сабакі вырашылі высьветліць дачыненьні. Вакол разьюшаных сабак, што рвалі адзін аднаму поўсьць, пачаў зьбірацца ўзбуджаны народ. Некаторыя найбольш дзьвінутыя маладзёны нават пачалі нацкоўваць бультэр'ера на беднага мопса, які адстойваў гонар дзяржаўных колераў: «Ату яго! Рві гэтага лукашысцкага прыхвасьня!»

А вядома, што відовішча бойкі дзейнічае на арганізм вельмі ўзбуджальна й спрыяе паступленьню ў кроў добрай порцыі адрэналіну. І ўсё гэта ў якіх пяцідзесяці кроках ад Прэзыдэнцыі. Міліцыянтам нічога не заставалася, як прыняць адпаведныя меры.

«Гуляньні» для гаспадара бультэр'ера скончыліся ў бліжэйшым пастарунку. Высьветліліся й цікавыя акалічнасьці з жыцьця «брата меншага»: бультэр'ер ня быў зарэгістраваны ў ЖЭСе па месцы прапіскі гаспадара, не кастрыраваны й не прышчэплены ад шаленства.

**Юры Шарлатанаў**

## Чыгірыха пакусала міліцыянэра




Незвычайны выпадак адбыўся нядаўна падчас суда над былым лукашэнкавым прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгіром. У лепшых традыцыях Майка Тайсана жонка Чыгіра Юлія раптам накінулася на вартавога міліцыянта й адкусіла яму паўвуха. Храбры міліцыянт застаўся на варце. Аднак пасьля працы пацярпелы быў дастаўлены ў бліжэйшы пункт аховы здароўя з падазрэньнем на адмаражэньне. Пацыент выкрыкваў антыўрадавыя лёзунгі і патрабаваў назіральніка ад АБСЭ. Пасьля курсу ўколаў і аздараўляльных працэдур ахоўніка парадку ўдалося прывесьці ў сябе. Цяпер пацыент пачувае сябе нармальна ●

## Новая рэкляма для банкаў

**Д**а скрайне нестандартнага мэтаду ўзьдзеяньня на патэнцыйных кліентаў зьвярнуўся гарадзенскі філіял ПріорБанку. Над галоўнай артэрыяй заходняй брамы Беларусі быў вывешаны рэклямны транспарант. Але ж замест звыклага «ПріорБанк – гэта тое, што трэба!» або «Усе праблемы вырашыныя разам з ПріорБанкам!» гарадзенцы прачыталі «Ё... твою мать». Такі да болю народны лёзунг прыйшоўся на густ большасьці гараджанаў. За адзін майскі дзень кліентамі банку сталі больш за дзесяць гарадзенцаў, якія выцягнулі з панчохаў апошнія даляры, зробленыя на кантрабандзе сьпірту ў Польшчу, ды паклалі іх на рахунак на дэпазыт пад гадавыя 10%.

Такі посьпех рэклямнага пі-ару выклікаў цэлы вал камэрцыйных ініцыятываў па ўсёй Гарадзеншчыне. Як толькі ні вычвараюцца бізнэсоўцы і нават дзяржаўныя чыноўнікі, імкнучыся павялічыць свае даходы! Вядома, напрыклад, што гарадзенскія мытнікі ўжо заказалі біг-борд з слоганам «Пі...дзец! Прыехалі! Беларуская мытная служба», а тытунёвая фабрыка зрабіла рэклямны ролік сваёй прадукцыі на мясцовым FM-радыё, саўнд-трэкам якога стала песьня «Х... вам!» папулярнага гарадзенскага эстраднага ансамблю DEVIATION.

Чакаецца, што неўзабаве эстафэту з заходніх рубяжоў краіны перахопіць і сталіца нашай Вялікай Радзімы горад-герой Менск, дзе такі народны пі-ар набывае вострую актуальнасьць напярэдадні восеньскіх парлямэнцкіх выбараў ●




*Кемлівасьці ў правядзеньні рэклямных кампаніяў гарадзенскім банкірам не пазычаць*



# Ураджай накрыўся

Радасьці калгасьнікаў няма межаў: замаразкі пабілі да трэці будучага ўраджаю. Добрая адмазка для прэзыдэнта.

У вёсках па ўсёй Беларусі як ніколі весела й радасна. Сяляне аптымістычна глядзяць у будучыню. Здавалася б, чаго радавацца, калі нядаўнія замаразкі вынішчылі добрую долю будучага ўраджаю. Сытуацыю ўзяўся пракамэнтаваць старшыня калгасу «Новы быт»: «Гэта ж унівэрсальная адмазка цяпер. Спытаюць дзе ўраджай? А мы пытаньне: а чаму ж Вы, Ваша бродзь, не далі нам пагоды? Ну дык і гуляньні ў дзярэўні. Больш часу можна праводзіць на сваёй гаспадарцы, а ня лазіць у калгасе». Народ не дурны, у сябе парнічкі паставіў. Для сябе ж, не для дзядзі чужога ●

# Хадж да Менску

## *Нашу сталіцу наведалі ўсходнія дэрвішы*

Такое нашэсьце кіраўнікоў замежных дзяржаваў Менск ужо парадкам падзабыў. З самых аддаленых кішлакоў СНД да нас прыехалі высокапастаўленыя мужы, каб вырашыць самае надзённае пытаньне:: як будзем па-чэснаму дзяліць выручку ад кантрабанды (заключаць мытны саюз). На самой справе ўсе гэтыя дыпляматычныя дзялы зьвяліся да турыстычнай прагулкі па сталіцы СНД (гэтыя лахі нават ніколі не бывалі ў нашай першапрастольнай), пахаваць у мясцовым Маўзалеі ды пракаціцца на дачу Лукашэнкі глядзець агуркі.

Самы цёплы прыём атрымаў казахскі хан Назарбай як галоўны стратэгічны партнэр Беларусі на Ўсходзе. Выклікае напругу пазыцыя новага Крамлю, якая ў выніку можа прывесьці да ліквідацыі СНД. Крэмль усяляк артачыцца й ня хоча больш такіх панібрацкіх абдымкаў з суседзямі.










***Прэзыдэнты Беларусі й Казахстану падтрымалі ўвядзеньне адзіных мытных тарыфаў.***

Праблемы з Расеяй сапраўды напружваюцца, бо ўсходні «саюзьнік» з-за цёмнасьці адмаўляецца браць за свой газ нашу бульбу ды тэлевізары. Да таго ж новапамазаны цар Расейскай Фэдэрацыі пачаў рабіць намёкі, што зноў паставіць мытні на мяжы са сваёй Кемскай воласьцю.

У выніку менскіх перамоваў паміж Беларусьсю й Казахстанам была дасягнутая адмысловая дамоўленасьць, якая тычыцца дачыненьняў нашых краінаў з Расеяй. Сэнс яе ў тым, што калі рускі мядзьведзь раптам скокне на бацьку, тут жа сьцяпны Тахтамыш загоніць у холку імпэрыялістычнаму драпежніку горсьць дробу.

На парадку дня – распрацоўка плянаў па стварэньні Беларуска-Казахскай Арды ●

**Чорны Абдула**

## *Інтрыгі*

### Раскол у МФ? Цалкам магчыма.

У кулюарах на Варвашэні-8 не сьціхаюць чуткі адносна магчымага ўнутранага перавароту ў кіраўніцтве «Маладога Фронту». Вядома, што МФ на сёньня не ўяўляе сабой маналітнай арганізацыі, а нагадвае хутчэй стракатую ласкутную коўдру, якую шмат хто прагне пацягнуць на сябе. Акрамя хрысьціянскай сэкты апошніх дзён Паўла Севярынца, у «Маладым Фронце» існуе цэлая гара розных фракцыяў. Найбольш прагны й ненажэрны да ўлады з усёй гэтай тусьні – фанабэрысты арыстакрат Раман Кавальчук, які нашымі экспэртамі лічыцца найбольш рэальнай фігурай «змовы супраць апостала». Вядома, што падчас сваіх замежных вандровак (*Навінкі*, №7) ён заручыўся блаславеньнем З.Пазьняка й паднакапіў капіталыцу, каб купіць самога Яўгена Скочку, які й будзе тым самым застрэльшчыкам справы. Аднак і на Кавальчука рэвальвэрчыкі знойдуцца. Тасмны гурток Пятрова хоча апярэдзіць праворлівага шляхціца й правесьці зьезд МФ, на якім плянуецца адправіць Севярынца ў манахі, а лідэрам зрабіць героя-графіціста Аляксея Шыдлоўскага. Галоўную ж пагрозу для ўсіх у гэтых разборках уяўляе сабой выбітны лідэр Кальварыйскага пралетарыяту таварыш Шмялёў. Працуючы на заводзе мэталаканструкцыяў, Шмялёў даўно выношваў пляны аддзяліцца ад апартуністцкага МФ і арганізаваць «Малады Фронт (марксістаў-ленінцаў)» і ўзяць курс на сусьветную рэвалюцыю.

Хто выйграе, угадай?

**Аддзел расьсьледаваньняў «Н»**




## *За казла адкажаш!*

***Н****і для каго не сакрэт, што ў жыцьці сучаснага беларускага грамадзтва адну з цэнтральных роляў апошнім часам намагаюцца граць розныя жывёлы. Аднак бадай самай палітызаванай часткай жывёльнага сьвету зьяўляюцца казлы. Так-так, ня сьвіньні, каровы або коні, а менавіта махнатыя двухрогія парнакапытныя барадачы. Першымі, хто зразумеў гэтую тэндэнцыю і заценіў карысьць ад супрацоўніцтва зь «меншымі братамі», былі беларускія палітычныя аўтсайдэры. Прыгадаем хаця б легендарнага казла Луку, які прыпёрся неяк на «Марш Свабоды» й бляяў антыпрэзыдэнцкія лёзунгі.

Вядома ж, ня ўсе беларускія казлы аказваюцца насамрэч такімі казламі, каб пасьвіцца на маргінальных тусоўках і шчыпаць заходнюю капусту. Прыкладам можа паслужыць грамадзянская пазыцыя казла па мянушцы Мараткасей, які браў удзел у мерапрыемствах, прысьвечаных сьвяткаваньню 55-ай гадавіны Вялікай Перамогі, маршыруючы па плошчы Незалежнасьці ў вэрмахтаўскай форме.

Такім чынам, новы фронт супрацьстаяньня на лініі апазыцыя-ўлады дыктуе й новыя прыярытэты ў прапагандысцкай палітыцы абодвух бакоў. Зразумела як ясны дзень: дзе больш казлоў, той і пераможа ●

**Уільям Казлоў**

# Herbadeath

## *Заснавальнік кармавой пірамiды «Herbalife» перадазнуўся сваім зельлем.*

«Хочаш пахудзець? Спытай мяне як!» Хто ж не сустракаўся з гэтымі фанатычнымі дзядзькамі й цёткамі, што пад прыкрыцьцём джыхаду лішняй вазе ўцюхваюць ня ў меру пражэрлівым грамадзянам баначкі-шклянaчкі зь незразумелым зельлем. Калі вы ўжо набылі ці ўжывалі гэты дарагушчы камбікорм – надыйшоў час задумацца.

Памёр 44-гадовы Марк Рэйналд Х'юз, стваральнік міжнароднай дыетычнай імпэрыі «Гербалайф», надзёжа й апора ўсіх таўстуноў плянэты. Афіцыйная вэрсія сьмерці – перадоз «Гербалайфам».

А як усё прыгожа пачыналася! Яшчэ зь першымі кроплямі абястлушчанага дыетычнага малака сваёй маці малыш Марк наглядаў за цяжкой доляй амэрыканскіх буржуяў, вымушаных недаядаць з-за абжорства. Ён зразумеў, што лішняя вага – гэта галоўны вораг чалавецтва пасьля камуністаў.

Але да эўрыкі падштурхнуў выпадак. Аднойчы, рыхтуючы гамбургер для сваёй любімай мамачкі, Марк паклаў замест салаткі нейкую траву са школьнага гербарыя. Матку так прапёрла, што тая за якія пяць хвілінаў пахудзела на 3 кілі! І тут Х'юза прабіла – стварыць карпарацыю «Гербалайф» і зарабіць кучу бабак. Распрацаваны Х'юзам склад розных харчовых дабавак быў настолькі геніяльным, што людзі з вагой у 4 цэнтнэры за адну ноч скідвалі да 450 кг лішняй вагі. Гэта магло вырашыць усе праблемы самай тоўстай нацыі ў сьвеце!

Аднак няма прароку ў сваёй Айчыне. У генія Х'юза ўзьніклі праблемы з амэрыканскім заканадаўствам. Склад парашкоў быў прызнаны настолькі сумнеўным, што Х'юзавай карпарацыі было забаронена дзейнічаць на ўнутраным рынку ЗША. «Гербалайф» пад выглядам таталітарнай сэкты быў абрэчаны прамышляць выключна за мяжой, абуваючы тамтэйшых таўстуноў.

Дзеючы хітрасьцю й падманам, гербалайфаўскія місіянэры зацягвалі да сябе заклапочаных сваёй вагой людзей, якія паступова ператвараліся ў гербаманаў.

Вядома ж, сам Марк Х'юз таксама рэгулярна балаваўся «Гербалайфам», што прывяло да хранічнага рахіту й выташчэньня арганізму (перад сьмерцю ён важыў усяго 41 кг). Апошнія гады ўвогуле ператварыліся ў кашмар: Марк закідваў чарговую дозу й іщоў на бакавую. У выніку: «Хочаш памерці? Спытай чувакоў са значкамі» ●

**Вацлаў Маргуноў**



Марк Х'юз напрыканцы жыцьця здолеў скінуць 100 кг лішняй вагі. Ягоны труп і пасьля сьмерці працягвае імкліва худзець.

# СЫМБОЛІКА



Сталін: «А гэты дзяржаўны сьцяг дастаецца рэспубліцы-ы-ы... Ўаў! Беларусі!!!»

## Ад рэдакцыі

Нядаўна мінула 5-я гадавіна першага беларускага Рэфэрэндуму. Але працягваецца шмат спрэчак наконт таго, ці варта было прымаць у якасьці дзяржаўных сымбаляў чырвона-зялёны сьцяг і герб «Капуста» або ўсё ж аддаць перавагу чорнаму штандару й гербу «Вясёлы Рыгорыч». Мы ня будзем праводзіць нейкі арбітраж вынікаў Рэфэрэндуму. Прапануем вашай увазе некаторыя рэфлексіі наконт таго, наколькі важная сымболіка ў жыцьці чалавека і грамадзтва. Усе матэрыялы зьяўляюцца асабістай думкай іхных аўтараў.

## Дальтанізм як галоўная ўмова нацыянальнага кансэнсусу

Фарбы – гэта такі ж біч у Беларусі, як у Ліліпуціі – курыныя яйкі. Гномападобныя ўродцы з раману Свіфта шчымілі адзін аднаго ў падваротнях унівэрсальнай фразай: «Чуеш, чувыдла, ты якім канцом яйкі разьбіваеш, тупым ці вострым?» У нас жа можна атрымаць па купалу за эстэтычныя сымпатыі да асобных спалучэньняў фарбаў – бел-чырвона-белых або за чырвона-зялёных.

На першы погляд, зачэпка абсалютна штучная, але ўсё адно вельмі балюча. Што рабіць, адчужанаму індывіду трэба адчуваць сябе ангажаваным у нейкі на яго погляд круты калектыў. Як сымбаль ідэнтыфікацыі з прагрэсіўнай тусоўкай ён абірае ўсялякую абстрактную фігню – ад асобнай маркі джынсаў да белых колераў шнуркоў. Цяпер колер для яго ня проста колер, ня проста зарубка ў спэктры, а частка асабістага «я», за які ён маму з папай на нажы паставіць.

Як выйсьці з зачараванага кола ўсяму нашаму грамадзтву, як вярнуць у сінявокую Беларусь дух згоды і зрабіць яе адным агульным кібуцам? Сымболіка ня церпіць кампрамісаў. Колькі было спробаў і скрыжаваць антаганістычныя сьцягі і гербы – усё дарма. Але ж без вырашэньня праблемы каляровых прыхільнасьцяў грамадзянскаму дыялёгу няма чаго лавіць. Зразумела, можна заліць удзельнікам круглага сталу зенкі, каб усе фарбы зьліліся ў адно шэрае месіва. Пытаньняў пра колеры ня будзе – будзе проста бухалава з паўзамі на лабызаньне ці мачылава. Плюс наступствы з будуна, калі прыйдзецца даганяцца, каб утрымаць амаль дасягнуты напярэдадні кансэнсус. Такога дыялёгу нам ня трэба.

Выратаваньне Беларусі – дальтонікі – людзі, якія з-за прычудаў зроку ўвогуле ня могуць адрозьніць ключавыя для Беларусі фарбы – чырвоны і зялёны. Ім усе каляровыя комплексы палітыкаў да лямпачкі. Для іх усё вакол шэра-бура-малінавае ў гарошак, у тым ліку й сьцягі «сала-мяса-сала» або «закат над балотам». Акурат такія людзі павінны скласьці касьцяк грамадзкага дыялёгу. Дзякуючы дальтонікам мы лёгка абыйдзем падводныя камяні ў працэсе перамоваў і ўтаропімся ў далягляды грамадзянскай згоды. Застаецца знайсьці, падабраць і даверыць ім лёс Бацькаўшчыны ●

**Джон Дальтон**

## Дзяржава, высмактаная з пальцу

### Гісторыя пра тое, як важна мець дзяржаўныя атрыбуты, нават ня маючы ўласна дзяржавы




Год 1968, які пракаціўся па сьвету выбухамі маладзёвых бунтаў і павальнай модай на левы экстрэмізм, практычна не закрануў богам забыты востраў на краі Зямлі – Новую Зэляндыю. І вось улетку 1968, калі эўрапейскія і амэрыканскія таварышы на практыцы спасьцігалі азбуку барыкадных баёў, каманда маладых анархаў з палітычных «епянёў» Паўднёва-Заходняга паўшару нудзілася ад сумоты. Доўгае й працяглае абібоцтва станоўча паўплывала на мозгі прайдзісьветаў-пачаткоўцаў: яны прыдумалі, як можна, працягваючы нічога не рабіць, знайсьці нядрэнную крыніцу да йснаваньня і заадно ад душы пазьдзеквацца над прагнілым буржуазным грамадзтвам і самой ідэяй дзяржавы. Яны прыдумалі сваю «дзяржаву» – Султанат Акусі-Амбэна.

Пара гадоў пайшла на тое, каб прадумаць усе дэталі і надаць выдумцы праўдападабенства. Для задумкі была выбраная тэрыторыя партугальскага Ўсходняга Тымору пад назовам Акусі-Амбэна, якая сапраўды існавала. Яе можна знайсьці на мапах, выдадзеных да 1975 году.

Пасьля таго, як краіна была вызначаная, оклэндзкія анархі надрукавалі паштовыя маркі, блянкі, чэкі й іншую канцылярскую дробязь, каб дурыць мясцовых бюракратаў. Посьпех містыфікацыі тлумачыўся проста: адзін зь цёплай кампаніі, якая стварыла султанат, працаваў з высокаякаснай паліграфіяй – моцнымі ксэраксамі і кампозэрнымі друкавальнымі варштатамі. Як гавораць, пусьці казла ў гарод... Той надрукаваў такія расошныя блянкі афіцыйных заяваў для прэсы Дзяржаўнага агенцтва навінаў султанату, што ў ніводнай з рэдакцыяў рэспэктабэльных газэт ня ўзьнікла сумневаў у іхнай арыгінальнасьці.

У пачатку 70-х у шмат якіх амэрыканскіх і ангельскіх філятэлістычных часопісах зьявіліся артыкулы аб Султанаце Акусі-Амбэна й ягоных выдатных марках. Зь філятэлістычных крамаў пасыпаліся замовы, справа пачала прыносіць даход. Але проста друкаваць маркі з папугайчыкамі, зьвяркамі й кветачкамі было справай нуднаватай. Хацелася нечага большага. Напрыклад, надрукаваць марку з Ільлічом. Але як надрукуеш пры жывым султане? Порціць легенду не хацелася.

...Адным добрым ранкам 1971 году газэты Новай Зэляндыі, а потым і Аўстраліі паведамілі, што буйнейшая правінцыя султанату Катаір у выніку вайсковага перавароту трапіла пад уладу марксістаў. Пасьледавала дзевяцімесячная грамадзянская вайна. Пасьля крывапралітных баёў Катаір быў захоплены ўрадавымі войскамі, паўстанцы з баямі адступілі на тэрыторыю Інданэзіі. Адзіным відавочным доказам рэальнасьці канфлікту сталі выпушчаныя марксісцкім урадам Катаіра маркі зь Ленінам, якія неўзабаве навадзілі філятэлістычныя крамы па ўсім сьвеце.

Акрамя марак, даслаўшы ў філятэлістычнае бюро Акусі-Амбэна 20 баксаў, можна замовіць і пашпарт гэтай выдатнай краіны. Пашпарт грамадзяніна Акусі-Амбэна – рэч у гаспадарцы вельмі неабходная. Напрыклад, вас вінцяць за несанкцыянаваны мітынг або за бойку з АМАПам у публічным месцы, і дастаўляюць у пастарунак, а вы дастаеце з шырокіх штаноў не сярпаста-малаткасты або «капусту», а пашпарт з экзатычнай султанскай каронай на вокладцы. І плюс яшчэ вярыцельную грамату, якая сьведчыць, што вы зьяўляецеся паўнамоцным прадстаўніком Акусі-Амбэна недзе ў Трансьнійстрыі (Прыднястроўе), Рэспубліцы Хальм-Тангч (Калмыкія) або Арэспубліцы Апсны (Абхазія). Ды мянты ж з вас пылінкі зьдзімаць будуць, абы не замуціць пазачарговага дыпляматычнага скандалу.

Увогуле, пост-савецкая сытуацыя прадстаўляе шырокія магчымасьці для махінацыяў, падобных Акусі-Амбэна. Хто можа перашкодзіць бываламу анархісту, які мае выйсьце да каляровага ксэраксу, надрукаваць маркі Рэспублікі Саха або пашпарты Латгаліі ды ўпарываць потым маркі даверлівым калекцыянэрам, а пашпарты – уцекачам са слаба разьвітых краінаў. Галоўнае, каб герб гэтай «дзяржавы» быў пастракацей ды гісторыя паінтрыгоўней ●

**Зьміцер Кастэнка,**
часовы паверany Аб'яднаных Папуаскіх Каганатаў

## ДавЕдка

### Да гісторыі пытаньня.

«Ды якая розьніца, якія герб і сьцяг дзяржаўныя. Галоўнае – каб чалавек быў харошы». З гэткай думкай мне даводзілася сустракацца вельмі часта.
А між тым, менавіта гэтая драбяза зьяўляецца вызначальнай для лёсу краіны. Напрыклад, герб Корсікі – галава маўра, Мазамбіку – перакрыжаваныя матыга з «калашом», Кітаю – маўзалей таварыша Мао... Аднак, гісторыя сьведчыць, што для таго, каб стварыць незалежную краіну, ня трэба соўгацца з дубальтоўкамі па лесе або забаўляцца кіданьнем камянёў. Варта прыдумаць назву, герб і сьцяг, надрукаваць гару паштовых марак і пашпартоў – і калі ласка, як па шчучым вяленьні віртуальная дзяржава ператвараецца ў суб'ект міжнароднай палітыкі.
Галоўнае ж – каб жаданьне было.

# АНТАЛЁГІЯ БЕЛАРУСКАГА











## ВакОл СьвЕту

### Нацыянальныя сымбалі для канібалаў.

Усе, у каго чэшуцца пратэзы адпомсьціць за Рэфэрэндум 95-га году! Ёсьць цудоўны шанец вярнуць «Пагоні» афіцыйны статус і заадно рэалізаваць старадаўнюю мару беларусаў – вывесьці Беларусь да мора.

Акурат у гэтыя дні на другім канцы сьвету на мапе зьявілася маладая незалежная дзяржава – Новая Каледонія. Насельніцтва – наўсьцяж чорнаскурыя канакі, якія ў 80-ых спусьціліся з пальмаў і прымусілі калянізатараў-французаў даць ім шырокую самастойнасьць.

І маглі б жыць. Але для падкрэсьліваньня сваёй дзяржаўнасьці папуасам не хапае самай дробязі – сваёй нацыянальнай сымболікі. Можна было б змайстрачыць нейкую халтуру кшталту «закат над акіянам», але абарыгены вырашылі інакш.

Па ўсім сьвеце абвешчаны конкурс «New flag for New Scotland», у якім можа прыняць удзел любы чалавек на плянэце, нават беларус. Трэба проста даслаць свой праект сьцягу і гербу ў спэцыяльную камісію пры ўрадзе Новай Каледоніі, што адбярэ колькі варыянтаў для агульнаплемяннога рэфэрэндуму.

Плебісцыт і дасьць фінальнае заключэньне, якому сьцягу й гербу ўпрыгожваць фасад вігваму правадыра.

Дык вось, прапанова такая: чаму б нам не пазычыць нашыя сымбалі ў часовае карыстаньне канакам? Паколькі бел-чырвона-белы сьцяг канае за флаг саліднай эўрапейскай дзяржавы, ён як піць даць пройдзе празь сіта адбораў і безумоўна ў выніку рэфэрэндуму стане пераможцам. Гэта будзе трыюмф культурнай экспансіі. На мапе нарэшце зьявіцца краіна, якая будзе жыць і разьвівацца пад ценем бел-чырвона-белага сьцягу Хрыста і Пагоні (хрысьціянскі місіянэр, што нясе выратаваньне). Во Прэзыдэнт афігее.

# Геральдыка
## як выяўленьне палітычнага лібідо

Сэкс у нас ёсьць, і безумоўна ён займае вельмі важнае месца ў жыцьці беларусаў. Ад закату да сьвітаньня толькі й чуваць з адкрытых фортак: «Ну куды ты пагнаў, жарабец! Ты мяне так у капусту парубіш!»

Але нікому і ў галаву не прыходзіла, што беларускі сэкс (у адрозьненьне ад, скажам, расейскага ці амэрыканскага) наўпрост зьвязаны зь дзяржаўным і нацыянальным сымбалямі Беларусі.

Вывучаючы сучасную геральдыку РБ, паклоньнікі старога Фрэйда здолелі ня толькі знайсьці там фалічныя і вагінальныя сымбалі, але і патлумачыць прычыну раздораў паміж рэжымам і апазыцыяй.

Паводле памянёнай нэафрэйдысцкай геральдычнай канцэпцыі, дзяржаўны герб РБ зьяўляецца дакладнай схемай вонкавых жаночых геніталіяў, ці вульвы. Зь пярэдняга боку вульва абмежаваная ўзвышшам, што створанае тлустай тканкай. Узвышша гэта пакрытае валаскамі (каласкамі) і мае назву лабок, ці бугор Вэнэры. Валасы на лабку растуць да вонкавых краёў вялікіх полавых губ (вянок зернавых культур) – двух валікаў, якія закрываюць полавую адтуліну, што знаходзіцца паміж імі. Абапал похвы (абрысы Беларусі) знаходзяцца малыя полавыя губы, ці німфы, якія маюць нэрвы і крываносныя сасуды (промні сонца). У ніжняй частцы малых полавых губ ёсьць пратокі барталінавых залозаў, якія пры полавай блізкасьці выдзяляюць сьлізісты бясколеравы сакрэт (глёбус). У кірунку лабка малыя полавыя губы звужваюцца і сыходзяцца ля клітара (зорка). Паміж клітарам і ніжнім краем уваходу ў похву знаходзіцца перадзьвер'е похвы.




*Гвалт у сямейных інтымных адносінах – ня лепшы сродак да згоды й паразуменьня.*

Што датычыць «Пагоні», то гэты герб згодна адэптам нэафрэйдызму поўны фалічных знакаў пад завязку: меч, пер'е, похва, шпора, крыж, уздыблены конь, мужык урэшце. Гэта ўсё абумоўлівае пастаянную напружанасьць і прагу да кантакту з супрацьлеглым полам. А як усім вядома, калі сыходзяцца неабыякавыя адзін да аднога мужчына і жанчына, то атрымоўваецца файны, гарачы, жарсны сэкс – вырашэньне ўсіх праблемаў, як сьцьвярджае дзядуля Фрэйд.

Аднак дыктатура – дзеўка ганарлівая і абы-каму не дае. Таму спробы мужнай апазыцыі пайсьці на «шчыльныя кантакты» вынікаў не прынесьлі: то не хачу, то балюча, то мама дома. Сэксапатолягі вызначаюць гэтую праблему проста: самай распаўсюджанай памылкай, якая прыводзіць да няўдач у сэксуальным жыцьці, зьяўляецца недаацэнка любоўнай прэлюдыі. Проста дзіва, што апазыцыя мяркуе, быццам ласкі, узаемнае ўзбуджэньне, пяшчота, якія папярэднічаюць полавым перамовам, зьяўляюцца ня толькі неабавязковымі, але й непатрэбнымі. Між тым, жанчынам часта неабходна працяглая папярэдняя падрыхтоўка, перад тым як іхнае сэксуальнае ўзбуджэньне дасягне высокай ступені напружаньня.

Нястрыманая апазыцыя, ледзь пачаўшы ласкаць дыктатуру і ўбачаўшы, што яна да яе пацягнулася, сьпяшаецца авалодаць ёю і літаральна празь лічаныя хвіліны адчувае аргазм, у той час як партнэрка нічога, акрамя пачуцьця непаразуменьня і расчараваньня не пасьпевае адчуць. Таму хацелася б яшчэ раз падкрэсьліць важнае значэньне любоўнай прэлюдыі для абодвух партнэраў і заклікаць іх не шкадаваць часу на ласкі і ўзаемную пяшчотную падрыхтоўку.

Спадзяемся, што нашыя «маладыя» нарэшце знойдуць агульную мову і змогуць вырашыць свае сэксуальныя праблемы. Тады пасьля аргастычнай фазы прыйдзе фаза, што прыносіць партнэрам расслабленьне і маральнае задавальненьне ●

**Эрых Бром,**
сэксапалітоляг

# МірОн – фальшываМанэтчык?




Статыстыка ведае ўсё. Колькі ў краіне засталося самак зубраў, колькі бабла атрымала апазыцыя па грандах на падрыў ладу, колькі сніданосцаў падхапіла ВІЧ-інфэкцыю праз аральны кантакт...

Ня вядае статыстыка толькі аднаго – колькі ў краіне гуляе купюраў. Мільёны, мільярды, трыльёны крэдытак тысячаў варыяцыяў грошавых знакаў праходзіць штодзённа праз нашыя рукі. Зайцы, даляры, марачкі, літы... Калі б да мэханізму абароту грошаў можна было падключыць нейкі агрэгат, Беларусь даўно адмовілася б ад паслуг РАЭС і Газпрому.

Безумоўнна, тэхнічна гэта немагчыма, а вось падняць на грошавых патоках палітычныя дывідэнды – аказалася як два пальцы. У апошняй *БМ* зьявіўся цікавы матэрыял, які эзопавай мовай пераказвае новую ўстаноўку сумнавядомага Мірона.

Аказваецца, неўтаймавальны высотнік закінуў крагі й з галавой пагрузіўся ў падробку грашовых знакаў. Замест таго, каб усталёўваць на дахах будынкаў бел-чырвона-белыя сьцягі, ён проста малюе іх на купюры. Графіка на купюрах прыводзіць нацыяналюгу ў сапраўдны экстаз, бо на грошах выяўленыя ня нейкія віцебскія слупы, а адміністратыўныя будынкі стратэгічнай важнасьці – ну там, Дзяржбанк, Палац прафсаюзаў і г.д.

Што гэта? Чарговая доля ўрыны ў мозгі? Не, бярыце вышэй – замах на фінансава-крэдытную сыстэму краіны. Спачатку апазыцыя ператворыць банкноты ў дацзыбао, друкуючы на іх расклады сваіх палітычных акцыяў. А далей – уявіць страшна. Ці мала ў нас дурняў, якім каціць памеціць муры сымболікай любімага клюбу, партыі... Заўтра яны кінуца кампэнсаваць свае графічныя комплексы на грошах, ператварыўшы іх у паперкі, што ня маюць ніякага кошту (каму трэба грошы, што стракацяць фарбам і надпісамі як Вокны-Роста Маякоўскага).

Патрыёты павіны даць дастойны адказ вызаву Мірона. Трэба нанесьці адказны ўдар па янкі. Грамадзяне, пішыце на грошах дзяржбанку ЗША – малюйце над выявай Капітолія чырвона-зялёны штандар, падрабляце подпіс казначэя на Пракаповіч. Уявіце сабе, у які маральны нокдаўн выпадзе янкі, якому трапіцца такі бакс. Такім чынам, мы паставім Уол-Стрыт на калені. Ён у нас за дапамогу апазыцыі крывёю харкацца будзе!

Не марнуйце часу, хутчэй да справы. Як пяецца ў адной дзіцячай песеньцы: «Бярыця ў рукі карандаш, мы начынаем празьнік наш!» ●

**Валька Асыгнацыя**

# НАЦЫЯНАЛЬНАГА ГЕРБУ



# Бандыцкі Пецярбург, НТВ і дыктатУра закону

Толькі паглядзеўшы другую частку тэлесэрыялу «Бандыцкі Пецярбург» на канале НТВ, я зразумеў, чаго да гэтага часу гэтак не хапала стомленаму бесьперапыннымі шумнымі віктарынамі і ток-шоў простаму гледачу. Зь лёгкай рукі боса народнага тэлеканалу сп. Гусінскага на блакітных экранах зьявіліся блізкія сэрцу нашых грамадзян пэрсанажы Марынінай і Топаля.

Галоўны герой тэлесэрыялу Чэлішчаў у выкананьні актора Дзьмітрыя Пяўцова (па мянушцы Зьвер) – проста душка. Прыкрываючыся высокімі ідэаламі помсты за сваіх забітых мафіяй бацькоў, малады інтэлектуал кідае малааплочваную працу ў пракуратуры і падаецца да бандзюганаў. Напрацягу 10 сэрыяў ён разьяжджае на джыпе, раскідвае баксы направа і налева, паліць з абрэза ў чачэнаў і трахае прыгажуню Кацярыну.

Прысутнічаюць у фільме і элемэнты мэлядрамы. Шчыміць сэрца ад болю, калі Чэлішчаў даведваецца, што Кацярына – законная жонка ягонага сябра-рэкеціра. Але гэта ня ўсё. Акрамя мужа-мафіёзі ў Кацярыны ёсьць яшчэ маленькі сын, які жыве ў вёсачцы з бабуляй. На самой справе ўсе героі ведалі адзін аднаго зь дзетсадаўскай пясочніцы, і таму Чэлішчаў спачатку вельмі злуецца на сяброў за тое, што яны ўжо даўно вялі цікавае жыцьцё пецярбурскіх робінгудаў, а яго ў сваю гульню не прымалі.

І толькі калі бандыт-нэафіт робіць Каці другога дзіцёнка, той супакойваецца.

Ня варта было б пісаць пра гэты тэлешэдэўр, калі б так не заварожвала эстэтыка сэрыялу: турэцкія скураныя курткі і кашэміравыя паліто, няголеныя падбародкі і набрыяліненыя патыліцы братвы, фінгалы і шнары на мужных тварах, бандыцкая феня і ненарматыўная лексыка ў дыялёгах. І ўсё гэта на фоне шэрых пецярбурскіх ляндшафтаў.



На кожны пуцінскі «прыкол» вольніца атвічаець сваёй новай зброяй

У кожным кадры прысутнічае бутэлька з гарэлкай, безь якой, здаецца, героі ня здатныя вырашыць ніводнай, нават самай простай, справы. Наогул, гарэлка займае не апошнюю ролю ў фільме. Гэтак, шыкам лічыцца напаіць якога-небудзь лаха «Пшанічнай» і імітаваць яго самагубства. Але большай часткай так гінуць толькі підары ці мянты.

А сапраўдныя пацаны забіваюць адзін аднаго «папаняцьцях» кулачкамі ці гасяць з «калашоў».

Я ўпэўнены, што некаторыя пэрсанажы сэрыялу ў бліжэйшы час стануць культавымі героямі, зробяць уплыў на стыль вопраткі і сфарміруюць новы стэрэатып паводзінаў моладзі. Гэтак, напрыклад, пецярбурскі Аль Капонэ па мянушцы Антыбіётык – патэнцыйны харызматычны лідэр. З выгляду – дабрадушны дзед Барадзед, а на самой справе – Штырліц лягічных камбінацыяў і ас разборак.

Невыпадкова вобраз бандыта як пазытыўнага героя зьявіўся на тэлеэкранах менавіта зараз, калі прэзыдэнт Пуцін абвесьціў «дыктатуру закону». Сэрыял «Бандыцкі Пецярбург» зьяўляецца адказам крыміналітэту на прапуцінскіх «Мянтоў» і «Вуліцы разьбітых ліхтароў». Пацьверджаньнем гэтай думкі служыць той факт, што калі ОРТ і РТР транслявалі зварот Пуціна да расейскага народу, дзе прэзыдэнт казаў аб «дыктатуры закону», адступніцкае НТВ пачала круціць свой адказ лорду Пуціну – «Бандыцкі Пецярбург». А гэта ўжо адкрыты выклік. Хто пераможа ў мультымэдыйнай вайне? Пажывем – пабачым ●

**Сьляпы П'ю,** тэлекрытык

## КутОк спажыўцА

# Ваярская гарэлка

## *Добры трып у сярэднявечча*




Як купіць семкі і не праляцець з стандартам утрыманьня солі і алею, дзе купіць маньчжурскае бікіні й не падхапіць ганконгаўскую «вэнэру», калі трэба сеяць каноплі на балконе – адказы на гэтыя й іншыя актуальныя спажывецкія пытаньні вы заўсёды знойдзеце ў нашай новай рубрыцы «Куток спажыўца». *Навінкі* – ваш надзейны флюгер у акіяне тавараў і паслуг!

*Гарэлка «Стары воін»*
*Мазырскі ЗКД*
*Моцнасьць 40%, ёмістасьць 0,5 л.*
*Склад: сьпірт этылавы рэктыфікаваны «Экстра», вада пітная, гліцарын, натры двухвуглекіслы, цукар.*

Аматары ядронай мінуўшчыны, прыхільнікі вітаўтаўскай адлігі, талкіенутыя! Прайшлі тыя адстойныя часы ваяўнічага атэізму, калі вы даганяліся ўсялякім сурагатам, набытым з-пад падолу рызаў жыровіцкіх манахаў. Захапленьне паганствам, Bauhaus і гаданьнем на благавонных агарках набыло формы масавай гістэрыі, якой Беларусь ня ведала з часоў торфавай ліхаманкі ў Мікашэвічах. Дзяржава – гарэлачны манапаліст – больш ня можа ігнараваць такую армію фанатаў сярэднявечных медавух, і вымушаная запусьціць новую лінію па вытворчасьці шнапсу на аснове старажытных крывіцка-хецка-гіпэрбарэйскіх рэцэптаў.

Інструктар па бадзяжаньні сівухі быў знойдзены этнаграфічнай экспэдыцыяй Янкі Кустовіча ў неапублікаваным бэстсэлеры Ўладзі Караткевіча «Дажбог прызямліўся ў Мазыры».

«Пра доблесьць і славу старых ваяроў, пра пах хатняга хлебу й густ крынічнай вады нагадае Вам глыток гэтай гарэлкі, выробленай зь лепшага зерня на вадзе з падземных вытокаў», – сьцьвярджае першапраходнік жанру беларускага фэнтэзі на этыкетцы флякону «СВ».

І тут няма ні кроплі гіпэрбалізацыі: вадзяра сапраўды ўстаўляе, пакідаючы на языку прысмак сапраўднага сярэднявечнага гліцэрыну зь лябараторыі невядомага Мэрліна.

Астаграміўшыся, вы пачуеце ў вушах звон сякераў, сьвіст алебардаў і енкі Яраслаўны. Пасьля другой чашы дзівоснага напою паміж нагамі ўстрапянецца рацівае белае жарабя, відэлец з маласольным агурком ператворыцца ў рагаціну, сусед насупраць здасца крыжаком.

Не закусвайце! Пасьля трэцяй вы транспартуецеся ў чароўны сьвет рэформаў каралевы Боны. Постаці мінуўшчыны яшчэ доўга будуць гойсаць па зьвілістых лябірынтах вашага галаўнога мозгу. Праблюйцеся, прыкладзіце да разбухлага купалу вільготны аксамітны карсэт, які вы зьлямзілі ў манаршай апачывальні, і пашліце свайго пажа-ганца па новы жбан «Старога Ваяра» ●

**Гервасій Выліваха**

# Подзьвіг Олдзі

Казаць на чысьціню, я заўсёды думаў, што рэгей – гэта нешта кшталту рэгбі для геяў. І таму, калі ў мінулую суботу атрымаў рэдакцыйнае заданьне наведаць рэгей фэстываль, то вельмі спалохаўся, як бы не згубіць сваіх спартова-сэксуальных прыхільнасьцяў. Але бабло ў *Навінках* нахаляву ня плоцяць, і таму прыйшлося мне шкандыбаць у КЗ «Мінск».

Аднак стрыптыз-шоў у гэты вечар я так і не дачакаўся. Напачатку для разугрэву выпусьцілі JAH DIVISION, В.Арэф'еву і клубы ганджубасу ў залю. З-за натоўпу растаманаў не было бачна сцэны, падчас выступу В.Арэф'евай я заўважыў толькі, як у залі энэргічна віхляў бёдрамі музычны камэнтатар *Беларускай маладзёжнай* Сяржук Пульша. Наогул, усё праходзіла жвавенька і маладзёвенька. Але ўсе чакалі нейкага Олдзі. З чутак, якія курсіявалі ў залі, я зразумеў, што гэта лідэр гурту КОМИТЕТ ОХРАНЫ ТЕПЛА і бацька расейскага рэгей.

Калі на сцэне зьявіўся высахлы як вобла мужычок у памятай жоўтай майцы, ніхто нават і не зразумеў, што гэта і ёсьць той самы Олдзі. Олдзі выглядаў як сапраўдны архетыпічны растафарай: хударлявая постаць старога джанкі, татуяваныя пярсьцёнкі на пальцах, фрызура «чарнобыльскі вожык». Але пасьля таго, як ён узяў першыя бразготныя акорды на гітары і засьпяваў сіплым вакалам пра сьпякотную маму-Афрыку, у мяне пакаціліся сьлёзы з вачэй. Олдзі ўжо пасьпеў трэснуцца гераінам перад выхадам на сцэну і ў бліжэйшы час яму не пагражала страціць цяпло. Вось гэтае цяпло і дарыў нам ён, Данка зь ямайскім сэрцам.

Публіка зьдзіўлялася, як Олдзі яшчэ ня гікнуўся да гэтага часу і з прагнасьцю жэрла цяпло Олдзі. Культавы герой рыдаў і крычаў празь сьлёзы: «Сябры! Для вас усё, што жадаеце! Любыя песьні!» Публіка адказвала задаволеным ровам і працягвала красьці цяпло Олдзі. Я з жахам глядзеў на патрыярха: з кожнай песьняй ён усё больш траціў сілы і тое самае цяпло. Я крыкнуў: «Сволачы, што ж вы робіце!» і сарваў голас. Вядома ж, мяне ніхто не пачуў.

Пад канец дзядзька зусім стаміўся і ўпаў на калені. Канцэрт скончыўся тым, што з-за кулісаў выйшлі два растаманы з дрэдамі да жопы і з благагавеньнем аднесьлі караля рэгей за сцэну.

Пасьля фэстывалю я зразумеў адно: музыку рэгей граюць сапраўдныя героі, а нашыя менскія растаманы – звычайныя вампіры і спажыўцы! ●

**Нябаба,** музычны крытык

## КінО

# Ня там шукаеце, спадарства.




Штосьці заўважна заактыўнічалі апошнім часам апазыцыйныя відэапіраты. У сьлед за «Незвычайным канцэртам» на латках БНФ-home video зьявілася чарговая кінанавінка.

На гэты раз у жанры мастацкай дакумэнталістыкі прадстаўлены фільм ананімнага рэжысэра пад псэўдонімам Ірына Волах «У пошуках Belvedere». Хто такі той Бэльвэдэр і хто яго мусіў шукаць – галоўная інтрыга стужкі, якая так і не раскрываецца нават у фінале, калі фільм плаўна перацякае ў наступныя хмурыя кліпы пра «Простыя гісторыі» і «Рыцараў мары». Галоўнае ўражаньне ад карціны скласьці вельмі цяжка. Вагаесься між «Армагедонам» і «Матрыцай», добра разбаўленымі вялікай лыжкай «Звычайнага прэзыдэнта».

Фільм пакідае цяжкое пачуцьце абманутасьці, самоты й сэксуальнага незадавальненьня, што выцякае, відаць, з малога бюджэту карціны. Стваральнікам фільму варта было б парэкамэндаваць пераглядзець «У пошуках капітана Гранта».

## ФОрум

### Душка-Эдзік

Фэстываль «Менская вясна» не абыйшоўся без удзелу і сэксуальных меншасьцяў сталіцы. У дзень адкрыцьця фэстывалю ўся паважная публіка, якая прываліла ў клюб «Рэактар», магла назіраць drag-queen-show у выкананьні самога старшыні Беларускай лігі сэксуальных меншасьцяў Эдзічкі Тарлецкага. Эдзік прыйшоў на сэйшн у шыкоўнай сукенцы й макіяжы ад Max Factor, чым выклікаў захапленьне й апладысмэнты прысутнай публікі. Самыя сьмелыя пачалі спадзявацца на разьвіцьцё падзеяў бліжэй да гей-стрыптызу або хаця б піп-шоў. Аднак дзеяньні трансвэстыта былі іскрамётнымі й маланкавымі, як гітлераўскі «Бліцкрыг»: Эдзік тут жа закадрыў нейкага сымпацягу-афіцэрчыка й неўзабаве зьнік зь вечарыны.

# «Менская вясна»

## «Мастацтва» пэрфомансу – палітычная правакацыя

«Да-а, ёсьць у нас яшчэ підарасы» – кінуў неяк Хрушчоў падчас славутага наведваньня галерэі мастакоў-абстракцыяністаў. На першы погляд акурат гэтая гістарычная рэпліка хроснага бацькі сав у Менску 18-20 мая. Акрамя дэманстрацыі фільмаў і канцэртаў асноўную частку праграмы фэстывалю складалі пэрфомансы – сродак мастацтва, дзе з дапамогай знакаў, енкаў і рухаў сымулюецца лібідная ідэя – звычайна маніякальная любоў да німфэтак, наркатычная ломка і г.д. Аднак Божы промысел дапамог дэкальтаваць сапраўдныя лятэнтныя настроі андэграўнду.

Дырэктарка кінатэатру «Радзіма» цягнулася на працу, калі акурат перад будынкам кіношкі культурныя дэгенэраты давалі пэрфоманс. На стуле сядзеў манікен мужыка. Мамаша пайшла было міма, але нешта жахлівае прымусіла яе спыніцца. У разваліўшымся й пахатняму распу-шыўшым вусы манікене яна прызнала рэльефы твару Лукашэнкі... Падасьпелы на крыкі нарад міліцыі расьсеяў артыстаў, як пацукоў. Так быў выкрыты код прадстаўленых на «Менскай Вясьне» мастацкіх твораў, з дапамогай якіх арганізатары зьбіраліся паказаць свой фак на адрас самага прагрэсіўнага ладу ў сьвеце.

Возьмем для прыкладу пэрфоманс «Вэнэрыянскія кронікі», што дэманстравалі ў ТЮГу. Уявіце пампэзны статуй цяжарнай Вэнэры. Побач спляліся ў карагод маладыя алігафрэны, якія доўга й занудна бармочаць нейкія мантры. Раптам утроба Вэнэры тужыцца, і адтуль вылазіць аголены чувак, каб птушкай Дронт шчаміць дзятву. На першы погляд дыягназ відавочны – трэба проста выклікаць мэдычны кансыліюм ды шырнуць пэрфаматараў пару разоў мэтадолам. Аднак пачакайце. Паглядзім на «Кронікі» праз прызму тэорыі дэканструкцыі: яйцаклетка Вэнэры – сымбаль Беларусі, нашай агульнай маці. Хеўра тынэйджэраў – парлямэнцкая гаварыльня. І нарэшце, разьюшаны чувак – рэквіем па падзеях лістападу 96-га, калі дэпутатам ВС уставілі пістон.

Або вось яшчэ пэрфоманс тэатру Акадэмія Руху (Польшча). Зьнешне таксама дурдом: аўтобус размазвае па асфальце бананы, торт і вінчык. Канцэптуальная экспэртыза кажа іншае. Палітычны падтэкст гэтай акцыі – саркастычнае зьнішчэньне мэтафары беларускага спажывецкага кошыку.

Гледзячы на згаданыя пэрфомансы, не магчыма не прыгадаць таго ж Мікіту Сяргеевіча. Хрушчоў калёнай жалязякай ганяў такіх абстракцыяністаў за двухсэнсоўнасьць.

І правільна! Усё гэта – мінулае ●

**Гальяш Сьвірын,** сацрэаліст



Кожны пэрфоманс быў прасякнуты палітычным наездам на Прэзыдэнта РБ.

# 80 гадоў устрыманьня

23 траўня сьцены Чырвонага касьцёлу літаральна рыдалі. Такога сораму яны не перажывалі з часоў атэістычных кампаніяў 60-ых. Тады тут зрабілі Дом Кіно, куды цягалі дзіцячыя экскурсіі на прэм'еру атэістычнай анімашкі «Казка пра папа і работніка яго Балду». У пачатку 90-х ксяндзы адсудзілі свае хароміны назад і першае што зрабілі – акрапілі «сьвянцонай вадой» усе закуткі будынку, каб вычысьціць бальшавіцкі дух. Аднак бесаўшчына вярнулася, і яе правадніком, як ні дзіўна, стаў папа Ян Павал II, які нядаўна адзначыў 80-ы бёзьнік.

Рыхтавацца да гэтай чырвонай даты каталіцкая тусоўка пачала значна раней. Доўга чухалі патыліцу як адзначыць сьвята й не прыдумалі нічога арыгінальней, як паставіць п'есу нейкага Караля Вайтылы «Перад крамай ювэліра». Па ўсім відаць, ня ведалі добрыя каталікі, што ў 60-ыя Вайтыла яшчэ ня меў фасфарыцырнага німбу вакол галавы й трапечучых крылышкаў пад лапаткамі. Пан Вайтыла – гэта й ёсьць сам панціфік Ян Павал II. Будучы папа быў дзіцём свайго часу, калі ўсе навокал глыталі ЛСД, тарчалі ад псыхадэлічных тэкстаў DOORS і марылі пра сэксуальную рэвалюцыю. Люстэркам сьветапогляду Вайтылы 40-гадовай даўніны і зьяўляецца згаданая п'еса.

Зьнешнія тэатральныя эфэкты, прыглушаныя, касьцюмы актораў зьведзеныя да аднаго парасону, грым у лепшых традыцыях мінімалізму – самотная сінька на венах і пад вачыма голая праўда экзыстэнцыі. У п'есе знайшла сваё ўвасабленьне так і нерэалізаваная блакітная мара папавага дзяцінства – выставіць ювэліра, адлюстраваліся найвышэйшыя ідэалы папавай філязофіі 60-х: «Sex, violence and rock'n'roll». Галоўныя героі «Перад крамай ювэліра» Анджэй і Тэрэса, тыповыя хіпі-падранкі, вырашаюць ажаніцца і жыць у шлюбе ў адпаведнасьці з усімі канонамі й прыбамбасамі каталіцкай царквы. Вайтыла праводзіць сваіх герояў праз гемарой сямейнага жыцьця і падводзіць гледача да высновы, што нічога лепшага за свабоднае каханьне чалавецтва яшчэ ня вынайшла.

Вось у гэтым – увесь папа рымскі ●

**Алексій II**



А калісьці будучы папа Вайтыла пісаў выдатныя п'есы пра каханьне, рок і сэксуальную рэвалюцыю




КАРОТКІ ЗЬМЕСТ ПАПЯРЭДНЯЙ СЭРЫІ:
РАГАТЫ ПАСЛАЎ НА ЗЯМЛЮ ГАНЦА, КАБ ТОЙ ЗАЧМЫРЫЎ АПОШНІ БАСТЫЁН БОГА. АЛЕ ГАНЕЦ ТРАПЛЯЕ Ў ПЕРАДЗЕЛКУ. КАБ ВЫКАНАЦЬ МІСІЮ, ТОЙ ПЕРАТВАРАЕЦЦА Ў...










































## LAMER-COMIX

# Любіць па-філіпінску – 2






































































